Przesyłka opłacona ryczałtem

№. 13. Вільня, Нядзеля, 18 Красавіка 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Спалохаліся народнага руху.

Адзін вялікі ўрадовец Савецкай Беларусі сказаў: „выклікалі мы духа беларусізацыі, але ці не зьмяце ён нас!?“

Вось-жа, Масква будучы ў дужа цяжкім як гаспадарчым, так і палітычным, палажэньні і каб яго папravіць, змушана была пайсьці на ўступкі тым усім нацыянальным адраджэнскім рухам, якія пасьля сусьветнай вайны даволі моцна разьвіліся ў быўшай Расеі.

Праўда, гэты рух усіх паняволеных народаў Масквою быў не аднолькавы: некатарыя народы былі зусім ужо сьвядомы, ясна і выразна ставілі лёзунг незалежнасьці як Украінцы, Грузіны, Беларусы, а другія народы толькі сталі будзіцца да сваей нацыянальнай сьвядомасьці.

Бачучы гэта Масква, дужа спужалася, што паняволеныя народы сапраўды могуць падняць штандар незалежнасьці (як гэта некаторыя ўжо зрабілі), а тым самым адарвацца з пад апекі Масквы.

Каб папярэдзіць усё гэта і каб засаніць нацыянальную сьвядомасьць, комінтэрн*) пашоў на хітрую палітыку: нарабілі рэспублік саюзных, аўтаномных, аўтаномных абласьцей і кожнай далі тыя, ці іншыя правы, але гэта ўсё толькі на паперы, бо сапраўды ўсюды праз сваіх партыйных таварышаў робяць маскоўскую работу.

Пісаў аб гэтым пасол Ярэміч у сваёй справаздачы аб ураженьнях з Савецкай Беларусі. Ен сьцьвердзіў, што нідзе нічога ня бачыў беларускага ў Савецкай Беларусі, апрача некатарых дробных уступак у галіне культурнага жыцьця.

Значыць, Масква вядзе палітыку: „divide et impera“, г. зн. „дзялі і пануй“. Але ня гледзячы на тое, што хоць Масква і хітрую вядзе палітыку, то народ наш сяньня зразумеў, што значаць апякуны. А апякуноў беларускі народ надта мае многа: ёсьць яны і з усходу, ёсьць яны і з заходу.

Аднак народ што-дзень то ўсё галасьней, мацней і выразьней ставіць слушныя свае дамаганьні незалежнасьці.

За гэтыя дамаганьні мы маемо тут у Заходняй Беларусі, дужа часта палітычныя працэсы. Многія з беларусаў думалі, што ў Савецкай Беларусі такім працэсам не павінна быць мейсца. Аднак аказваецца, што і там тое самае: вобыскі, арышты, палітычныя працэсы. Пытаюся над кім? Над тымі-ж беларусамі.

Робяцца вобыскі ў каго? У Якуба Коласа, які ўсё сваё жыцьцё аддаў на аўтар гаротнай Бацькаўшчыне. Арыштоўваюць і судзяць каго? Вучыцялёў—найлепшых сыноў народу.

Апошні суд у Менску над т. зв. „Лістападаўшчынай“, ясна нам паказаў, як да беларусаў адносіцца Масква. У маскоўскіх „Известиях“ былі нападкі на падсудных за тое толькі, што яны на судзе выключна карысталіся беларускай мовай і што адзін з падсудных назваў, прысланых камуністаў з Разані і Уфімскай губэрніі, чужынцамі. За гэта „Известия“ народных беларускіх барацьбітоў назвалі шовіністымі.

Я не магу нічога гаварыць аб Лістападзе, бо яго бліжэй ня знаю. Але судзілі разам з ім другіх вучыцялёў, якія ведамыя, як чыстыя, ідэйныя сыны Беларусі. А за што судзілі? Судзілі за тое, што ясна і сьмела сказалі: у Беларусі ўлада павінна належыць беларусам, а не насланым чужынцам, як казакам Крыніцкім і палякам Славінскім.

За гэта нядаўна ў Менску асудзілі верных сыноў Беларусі ад 2 да 5 гадоў турмы.

На гэта мы мусемо сказаць, што беларускі народ сьвядомы сваіх правоў і ня сяньня, то заўтра іх здабудзе. Вастрогамі ўжо беларусаў застрашыць ня можна. А тым вялікім дыктатарам, якія баяцца беларускага народнага руху, трэба сказаць, што як будзеце арыштоўваць, садзіць у вастрогі, тэрорызаваць лепшых сыноў Беларусі, то народ гэтага ня сьцерпіць і прыйдзе час, што зьмяце вас са сваей дарогі.

**Незалежнік.**

*) Камуністычная Міжнародная Арганізацыя.

## „Наш Кліч“ і конфэрэнцыя Бел. Сялянскага Саюзу.

Ад самага пачатку залажэньня беларускае сялянскае партыі „Бел. Сял. Саюз“, адна з беларускіх палітычных групаў, якая хацела-б мець манаполь у-ва ўсіх беларускіх справах, пачала стасаваць безпадстаўныя напады, як на самую ідэю арганізацыі сялян, так і на арганізатараў Беларускага Сялянскага Саюзу.

Адбытая 24 сакавіка ў Вільні конфэрэнцыя Бел. Сял. Саюзу дала повад аднадзёўцы „Наш Кліч“ (1.IV.26), якая была далейшым працягам „Бел. Нівы“, парыцца ў справах Сялянскага Саюзу і зрабіць вывады нязгодныя з праўдай.

Вот-жа хочым тут паказаць, што было сапраўды на конфэрэнцыі Сял. Саюзу.

Фактычна, згодна са спіскам прысутных на конфэрэнцыі Бел. Сял. Саюзу, на зьезд прыехала з вёсак не „ўсяго толькі... 9 запраўдных сялян“, а 20; мястовых было толькі 4.

Арганізатары конфэрэнцыі зусім не стараюцца аддзяліць сялян ад работнікаў, чаго доказам ёсьць параграф (§ 45) у праграме Саюзу, які кажа: „У барацьбе за свае паасобныя ідэалы, як сяляне, так і работнікі павінны ісьці разам і старацца адны адных падтрымліваць“.

Што да выступленьня **аднаго** „грамадзіста“ на конфэрэнцыі ў справе „Работніцка-Сялянскай Грамады“, то трэба з прыемнасьцю адзначыць, што **ўсе іншыя** сяляне, як адзін, моцна стаялі на сялянскім грунце, зусім ня прызнавалі рацыі думкам „грамадзіста“, уважаючы іх за штучна інспіраваныя праз „Грамаду“. Нацыянальная беларуская атмасфэра на конфэрэнцыі была так ідэйнай і моцнай, што ўрэшце і сам „грамадзіст“ зьмяніў свае пераконаньні і галасаваў ня толькі за праграмай і папраўкамі, але і за рэзалюцыямі ўсей конфэрэнцыі, адказываючыся ад сваіх папярэдніх думак і ня выстаўляючы сваіх асобных прапазыцыяў на галасаваньне. Як відзім, ня можа быць н‘ат і гутаркі аб тым, каб нейкія „прапазыцыі былі адкінены несялянскай большасьцяй, як піша „Наш Кліч“.

Што да сялян, якія нібы-то „маўчалі“, то мусім рашуча стаць у абароне гонару ўсіх прысутных на конфэрэнцыі сяброў і востра запратэставаць процiў падобных вывадаў „Нашага Кліча“, астаўляючы іх на сумленьні таго, хто асьмеліўся іх напісаць.

Калі ідзе аб работніцкае пытаньне, то якраз яно даволі шырока прадстаўлена ў праграме Саюзу, а што да новага параграфу, які быў прыняты конфэрэнцыяй, а які гавора аб тым, што фабрыкі павінны належаць да работнікаў так, як зямля да сялян, то трэба адзначыць, што ініцыатарам гэтага новага параграфу быў я. Як паслы і арганізатары, так і ўсе сяляне прыстутыя на конфэрэнцыі ахвотна, бяз ніякіх спрэчак, аднагалосна прынялі маю прапазыцыю.

Што да становішча сялян, то ня толькі ня можа быць гутаркі аб нейкім „расчараваньні“, а наадварот — як арганізатары, так і сяляне (аб гэтым гаворыць адпаведная рэзалюцыя, якая была ўжо друкавана ў Сял. Ніве) вынеслі з конфэрэнцыі самыя найлепшыя уражэньні, аптымізм і сьветлыя надзеі на будучыну арганізаванага беларускага сялянства, якое адыграе пераважную, кіруючую роль у адраджэньні беларускага народу. У зьвязку з наскрозь нацыянальным духам конфэрэнцы, на зьездзе ня было ніводнай асобы, якая-б гаварыла, як піша „Кліч“, „толькі парасейску“; выключнай мовай усіх прамоўцаў была свая беларуская мова, што якраз адпавядае нацыянальнаму характару Беларускага Сялянскага Саюзу.

Вось-жа цяпер безстаронным чытачом вельмі будзе лёгка асудзіць аўтара і тую невялічкую беларускую палітычную групу, якая займаецца нападамі на Бел. Сялянскі Саюз.

**А. Більдзюкевіч**
Сэкрэтар Конфэрэнцыі
Беларуск. Сял. Саюзу.

## Прамова

### пасла Ярэміча у справе вастрогаў у Польшчы, сказаная 22 сакавіка 1926 г.

Высокая Палата!

Справа вастрогаў у Польшчы, так як шмат іншых галін жыцьця, была праз грамадзянства і ўрад зусім закінута. Трэба было адозвы францускіх грамадзкіх дзеячоў, каб Сойм гэтай справай заняўся. Шмат тут аб гэтым гаварыў п. прэзэс камісіі Тугут. Я хацеў-бы толькі зьвярнуць увагу на некатарыя рэчы.

Жыцьцё вязьняў у Польшчы прадстаўляецца вельмі дрэнна. Складаецца на гэта тры прычыны: 1) дрэнная адміністрацыя, недаючая грамадзянству памагаць вязьням, 2) перапаўненьне вастрогаў і 3) праявы змаганьня за палепшаньне варункаў праз галадоўку з боку вязьняў.

Калі ўзяць вастрожную адміністрацыю, то трэба лічыць яе нядатнай. Не падумана нават аб такіх мінімальных рэчах, як нары, сянікі і накрыўкі. Ня гледзячы на выдаваныя сумы на гэтыя мэты, вязьні ляжалі на падлозе; ня пушчана ў ход ніякіх варштатаў; занятых працай вязьняў ёсьць вельмі мала, дзеля чаго яны ня могуць працай палепшыць свой быт.

Гаворачы аб перапаўненьні вастрогаў, усе мы як правіца, так і лявіца былі згодны з тым, што на кожнага вязьня ня прыпадае па 2 мэтры паветра. Сядзяць па 3-х, 4-х у аднэй цэлі бяз коца, без сянікоў і пры гэтым з дрэннай ежай. Ня ведаю, як чалавек можа гэта вытрымаць.

Цяпер перахаджу да найстрашнейшай рэчы, а іменна: вязьні палітычныя ў Польшчы адваёвываюць сабе ў адміністрацыі палепшаньне свайго быту толькі галадоўкай. Сыстэм гэты немагчымы і ня гледзячы на тое, што камісія будучы ў вастрогах, зьвяртала ўвагу вастрожным уладам на гэта зьявішча, мы сяньня бачым павялічэньне галадоўкі ў далёка большым працэнце. А галоўная прычына гэтага крыецца ў тым, што ў карным дэпартаманце ёсьць п. Гловацкі, які прынцыпова ня прызнае палітычнага вязьня. Я ўжо ў сваім часе казаў з гэтай Высокай Трыбуны, што для вязьня было-б найвялікшай палёгкай, Пане Міністар, каб п. Гловацкага адправіць на эмэрытуру, бо сьцьвярджаю, што гэта тыран усіх вязьняў. Ад часу калі я аглядаў вастрогі, маю кіпу зажаленьняў на яго паступкі, выключна з палітычнымі вязьнямі.

Калі гаварыць аб перапаўненьні вастрогаў, то тут ёсьць вялікая і то вельмі вялікая віна судоў. П. Тугут казаў, што не залічаецца вязьням засуджаным на 6 месяцаў цяжкага вастрогу ані аднаго месяца прэвэнцыйнага арышту, бо так выразна прадбачыць 54 арт. Карнага Кодэксу. Мне здаецца, што ўжо вялікі час падумаць аб тым, каб 54 арт. Карнага Кодэксу, у той ці іншы спосаб, быў скасаваны. Калі ня можна ўсяго Кодэксу перапрацаваць, то прынамсі зьмяніць арт. 54, паводле каторага вязьню, засуджанаму на кару цяжкага вастрогу, ня можа залічацца прэвэнцыйны арышт.

Далей перахаджу да маей прапазыцыі, ня прынятай дзеля яе стылю, а іменна да справы паліцыі. Ня гледзячы на тое, што мая прапазыцыя была адкінена, усе, аднак, былі згодны з тым, што яна праўдзівая! На гэта маю факты, ды нават з гэтай Высокай Трыбуны п. міністар Ольпіньскі прызнаваўся да колькінаццаці выпадкаў зьдзеку, біцьця, а нават забойства з боку паліцыянтаў і рожных конфідэнтаў. Пасольскія інтэрпэляцыі, каторых сяньня чытаць ня буду, здаецца мне, даюць даволі матар'ялу аб істнаваньні ў паліцыі сыстэмы катаваньня і прымусовых пакаваньняў, адносна да палітычных вязьняў. Усе працэсы палітычныя былі да сябе падобныя ў тым, што ўсюды ў адзін голас вязьні заяўляюць аб катаваньні і прымусовых подпісах пратаколаў, заўчасу прыгатаваных.

У выніку вось гэтых зьявішч, паны камаданты і пастарунковыя, забіўшыя ў адным выпадку 2-х людзей і катаваўшыя ў сярэднявечны спосаб, атрымалі вышшыя становішчы.

Вось чаму на першым паседжаньні Камісіі Сьледчай да разгляду надужыцьцяў адміністрацыі на „крэсах усходніх“, я заявіў, што калі рэзультаты працаў камісіі дадуць гэтыя самыя вынікі, то я выракаюся ехаць з гэтай камісіяй.

П. Тугут заявіў, што будзе імкнуцца да таго, каб надужыцьці, якія камісія заўважыць былі раскрыты і віноўныя прыцягнуты да адказнасьці. Вось-жа паглядзём якія рэзультаты. Праўда, позна даём гэту справаздачу, бо праца пачалася ў 1924 г., кончылася ў восені і сяньня толькі даём справаздачу, але і тады ў 1924 г. міністру было, аб гэтым паведамлена, што дзеіцца ў Влоцлавку аб якім п. прэзэс Тугут успамінаў. Адзін вязьнік там мне жаліўся, што сам пракурор біў.

Далей, была згодная думка аб скасаваньні Сьвятакрыскага вастрогу. Паводле п. Гловацкага кожная дзяржава мусіць мець такую катавальню. (Голас: рэзьню). Рэзьню, бо праз паўгоду на 300 вязьняў памярло 51 і хворых дагараўшых было 48. Такім чынам у працягу году трэцяя частка вязьняў мусіць уміраць. П. Гловацкі заместа забіраць тых вязьняў, кажа яшчэ аб павялічэньні ліку і сяньня маем ужо ня 300, а больш 400. Такім чынам, цяпер будзем мець сьмертнасьць ужо ня 100 душ у год, а 150. Гэта ёсьць сыстэм п. Гловацкага. (П. Мантэрыс: усе ўміраюць, а злачынцы не павінны ўміраць). Пана Мантэрыса трэба было б туды паслаць. (П. Мантэрыс: як зраблю такі праступак як пан, то туды пайду).

Гаварылася далей, у камісіі аднагалосна, каб арышт прэвэнцыйны правадзіўся вельмі асьцярожна, а сяньня заместа памяншэньня п. міністрам гэтых арыштаў, бачым такую статыстыку: на 1-га студня 1925 г. было 31656 арыштаў, а на 1 га мая 1925 г. было 32639. Гэтак міністар справядлівасьці ня толькі не пайшоў у кірунку ўказак камісіі, а наадварот: на 1000 душ павялічыў арышты. Трэба было-б дабавіць тут яшчэ 1000 арыштаў на землях беларускіх, а будзе шмат больш.

Канчаючы маю прамову скажу каротка: дакуль у Польшчы будуць атрымоўліваць вышэйшыя становішчы людзі, якія твораць інквізыцыю над вязьнямі, датуль, прашу паноў, калі ня хоціць вашых адозваў ды п. п. паслоў, — будуць зьвяртацца да паноў тыя вучоныя і грамадзкія дзеячы нават саюзьніцкай Францыі.

Цяпер, панове, маю яшчэ адну прапазыцыю аб прыцягненьні да адказнасьці начальніка вастрогу ў Беластоку. Здаецца, што калі бачым забойствы, аб каторых шырока так казаў калега Санойца пры папярэднім пункце парадку дня, то мы павінны сабе сказаць, што за гэтых палітычных вязьняў нехта павінен адказываць. Ня гледзячы на гэта калі ў 1923 г. пры штучным кармленьні вязьняў у Беластоку забіта 4,—ніхто з адміністрацыі прыцягнуты да адказнасьці ня быў. Да сяньняшняга дня пан начальнік урадуе і праводзіць гэтыя інквізыцыі, як даўней. Міністэрства нават не здабылася на тое, каб хоць дзеля дэлікатнасьці перанясьці начальніка ў другое мейсца. За катаваньне і за сьмерць, такім чынам, ніхто не адказвае. Рэасумуючы сказанае, сьцьвярджаю, што ў Польшчы ўпраўляе ня сойм, ня ўрад, а кліка азьвярэлых паліцыянтаў, якія катуюць людаасьць і, мае паны, калі сяньня ня зробіце гэтаму канец, то будзіце мець тыя вынікі, што іншыя дзяржавы будуць прымушаны ўмешывацца і гаварыць аб белым тэроры, як гэта было ў 1924 годзе.

# ВЯСНА...

Таюць сьнягі, пачарнелі палі,
На прыгрэтай сонцам ажыўшай зямлі.
Вясна. Як павучыньне рвуцца аковы,
Адчыніліcь цямніцы, на шляхі новы
З гімнам свабодзе, жыцьцю і прастору,
Пасьпяшаюць рады, забыўшы гора
Цяжкага палону. Сьвяткуе прырода,
Толькі цар яе, з адзнакай непагоды,
Ўсё яшчэ хмурны, вясельля стараніцца,
Як-бы на што чакае, каго баіцца.
Ён сьпіць яшчэ, хаця ўжо скрозь сон
І да яго далятае клічу звон,
Яшчэ далёкі, глухі і няясны,
Ўсё-ж сільны, магутны, уласны.
Тады рукой дрыжачаю, як хворы,
Ён шчупае кайданы, аднак бяз апоры
Сон зноў яго перамагае
І чары вясьняныя ад яго хавае.
Прачхніся вольны зямлі сын!
Даволі спаць, ты толькі адзін
Яшчэ сьпіш. Паглянь, няма ўжо няволі,
Яна мінула, як ня было ніколі;
Ўставай, ужо сьвітае, узайшла ўжо зара,
Прадзнака яснага сонца; пара!..

**П. Сумны.**

*Прысылайце грошы на газэту і адрасы Вашых знаёмых!*

# Беларусы у Чэхаславакіі.

**Бюлетэнь № 3—4 Бел. Соц.-Рэв. Партыі.**

У Празе выйшаў № 3—4 бюлетэнь Бел. Соц.-Рэвалюц. Партыі з гэткім зьместам:

1) Наш інтэрнацыянал.

2) Да пытаньня аб „арганізацыях“ і „далучэньнях.

3) Сацыялізм як найбліжэйшая ступень гістарычнага поступу.

4) Да праблемы працоўнай дэмакратыі.

5) Праграмныя пытаньні: 1) Некалькі зацемак з гісторыі БПСР; 2) Праграма БПСР.

6) Міжнародны рэвалюцыйны рух: 1) Літва; 2) XX зьезд Польскай Партыі Сацыялістычнай; 3) Угодкі лютайскай рэвалюцыі.

7) Агляд друку: 1) „Голас Беларускі“ аб зьменатычніцтве; 2) „Ідэйнае“ пяталізніцтва; 3) Чарговая правакацыя; 4) Рэакцыя ўзмацняецца.

Г—а.

# З хлопаў ды ў падпанкі...

**(процісялянская брашурка пасла Вітаса: „ЧАСЫ І ЛЮДЗІ“).**

I.

Што ў першыя „баечныя“, гучна-дэкаратыўныя часы адроджанай Польшчы на чале ўраду больш, як на тры чверці сялянскага краю стаяў былы „хлоп“ Вітас, былы войт аднэй з вясковых гмінаў Заходняй Галічыны, гэта — адна з тых „баек“ ці дэкарацыяў, якія на жыцьцё і разьвіцьцё па сутнасьці чыста панскай Польскай Дзяржавы ня мелі ніякага амаль рэальнага, прынамся добрага, уплыву.

Носячы, нават на афіцыяльных прыёмах, паўсялянскую вопратку, ня ўкладаючы „прынцыпова“ кравату, былы хлоп, стаўшы прэм'ерам польскага ўраду, не парупіўся вырашыць ані воднага палючага пытаньня з сялянскага жыцьця ў Польшчы. Наадварот: у саюзе спярша з пэпэсамі-пілсудчыкамі, пасьля—з абшарнікамі і эндэкамі — ён палажыў на доўгія годы пад сукно найбольш палючую справу сялянскага жыцьця—зямельную рэформу.

Праз увесь першы пэрыяд „разбудовы“ Польскай дзяржавы ўся гэта захапіўшая ўладу ў краі панская хэўра вельмі спрытна адцягвала ўвагу польскага сялянства ад сваей зямлі на зямлю чужую, якую бытцам найлягчэй ды найпэўней сялянства можа здабыць, ідучы грамадой у армію Пілсудскага. Цяпер ужо сусім ясна, што на крывавую бойню гнаў п. Пілсудскі польскіх сялян і работнікаў, каб адным махам забіць двух зайцаў: адратаваць ад зямельнай рэформы панскія маёнткі ў Польшчы, дый — польскае абшарніцтва ў Беларусі і Ўкраіне...

У выніку гэткай спрытнай тактыкі ўся панская зямля амаль не цалком асталася пры панах, а сялянства ў Польшчы, ашуканае па ўсей лініі пануючай у краі панскай хэўрай — не атрымаўшы зямлі, зруйнавана гаспадарча да таго, што ня можа ўжо надалей утрымліваць разбудаванай на яго карку панскай дзяржавы... Толькі дробная частка польскага сялянства, а перадусім — жаўнеры арміі Пілсудскага, у нагароду за тое, што адратавалі польскім абшарнікам іх маёнткі, дый з мэтамі больш палітычнымі, як гаспадарчымі, атрымалі крыху абяцанай ім чужой зямлі—коштам беларускага і ўкраінскага сялянства — на „крэсах“...

II.

Дык вось толькі тады, калі пад гэтай панскай Польскай Дзяржавай пачаў трашчэць яе сялянскі фундамэнт, калі шмат роднае сялянства, ашуканае праз сваіх „правадыроў“ і „прадстаўнікаў“ у Сойме, пачало хвалявацца, як збожа ад ветру, толькі тады неяк пачалі хапацца за розум нават гладкія, сытыя дый безклапотныя палітыкі ў Варшаве...—Пачалі шукаць ратунку..

Але, калі хто-б падумаў, што гэтыя варшаўскія паны палітыкі, шукаючы ратунку для ўсяго пераважна сялянскага краю, пачалі ад ратаваньня сялянства, дык той памыліўся-бы моцна. Бо-ж якраз наадварот: тады амаль ня ўсе палітычныя партыі гэтай панскай ды падпанскай Польшчы аб'ядналіся цясьней, стварыўшы моцны супольны процісялянскі блёк у Сойме...

Гэты скіраваны проці сялянства, а перадусім проці няпольскага сялянства ў Польшчы, соймавы блёк сьпешна выкапаў з камісыйнай скрыні заваліўшуюся ў кут „зямельную рэформу“, але, зразумела, — не для таго, каб яе правясьці ў жыцьцё, але для таго, каб сфальшаваўшы яе іператварыўшы ў тое-ж „асадніцтва“, ізноў адратаваць ад хвалюючагася сялянства панскія маёнткі.

На чале гэтага ізноў мабілізаванага процісялянскага фронту ў Сойме і ў краі сталі справа—эндэкі, злева—пэпэсы...

З гэткага складу гэтай ўрадавай коаліцыі відаць, што яна мае выдатна меставы характэр, і ставіць сабе задачай — ратаваць не Сялянскую Дзяржаву, але дзяржаву—коштам сялянства, пакінуўшы і захаваўшы ў ёй—хаця-б на якісь час, хаця-б на заўтрашні дзень—усё, што ёсьць, а перадусім—захаваўшы панаваньне места над вёскай, панаваньне т. зв. буржуазыі, ня выключаючы з яе (бо зблёкаваўшыхся з ёй) і польскіх „сацыялістаў“.

III.

Сярод польскіх партыяў, якія ўваходзяць у склад новай, скіраванай проці сялянства, урадавай коаліцыі, як гэта ня дзіўна, — у самым яе цэнтры стаіць якраз кіраваная п. Вітасам партыя сялянскіх здраднікаў — пястоўцаў.

З нашага беларуска-сялянскага пункту гледжаньня, гэта партыя якраз тая, якая спрытна выкарыстала ў сваіх партыйных і клясава-кулацкіх мэтах усю аблудную і агідную тактыку ўсяго польскага грамадзянства, пахаваўшага запраўдную зямельную рэформу і падмяніўшага яе — асадніцтвам і вольнай парцэляцыяй.

Кулацкае асадніцтва на „крэсах“ коштам беларускага і ўкраінскага сялянства і поўная воля ў абшарніцкіх барышах з „вольнай“, папросту: спэкуляцыйнай парцэляцыі, вось тая цана ў „срэбніках“, за якую пястоўскія Юды прадалі абшарнікам і буржуазыі—ўсё многапакутнае бяднейшае польскае і няпольскае сялянства ў Польшчы...

Пястоўцы для нас-беларусаў, гэта перадусім—партыя пасеўшых на нашым сялянскім хрыбце асаднікаў. Пястоўцы, гэта—тая „сялянская“ палітычная група ў Сойме, якая нятолькі цалком выраклася агульнасялянскай салідарнасьці, але—больш таго: атручаная ядам эндэцкага зьвярынага нацыяналізму, ня мае нічога проці таго, каб—для выгады польскага кулака-селяніна ці галіцыйскага маларольніка-паляка—гаспадарча руйнаваць, палітычна абязволіваць дый нацыянальна выкараняць беларускае ці ўкраінскае сялянства...

IV.

Калі мы, добра ведаючы, што такое пястоўцы і іх правадыр п. Вітас, пяройдзем да зьместу яго бра-

# З Польшчы.

### Банкрутуюць.

Лік банкруцтваў у Польшчы стала расьце. У 1922 і 1923 г. было іх толькі 21; у 1924 г. лік гэты павялічыўся да 108; у 1925 бачым ужо 517 банкруцтваў, з чаго прыпадае на гандлёвыя прадпрыемствы — 373, на прамысловыя — 135 і на крэдытныя — 9. Супалак акцыйных збанкрутавала — 50, супалак фірмовых — 59, супалак з агранічанай адказнасьцяй — 43, каапэратываў — 22, іншых фірмаў — 343.

### Маніфэстацыя безработных у Варшаве.

У пятніцу 9-га г. м. безработныя сабраліся на Цеплай вуліцы, дзе іх паліцыя пачала разганяць. Другая група сабралася на Пляцы Тэатральным і хацела падыйсьці пад Магістрат, але і тут паліцыя разагнала.

Трэцяя грамада безработных прабавала выказаць сваё узбурэньне перад Радай Міністраў і стварыла цэлы паход, але і тут дэмастрантаў спаткаў той самы лёс. Арганізаваньне забурэньняў у некалькіх мяйсцох адразу, гаворыць за тое, што безработныя кіраваліся заўчасу абдуманым плянам

### Катастрофа на чыгунцы.

8-га сакавіка між ст. Бохняй а Слатвінай у 75 кілёмэтраў ад Кракава зыйшоў з рэльсаў кур'ерскі цягнік. Цяжка ранены 3 асобы, лягчэй 25.

### Злучэньне Украіны з Гданскам.

Перад Вялікаднам у Варшаву прыезджалі савецкія інжынеры ў справе будовы воднага шляху злучаючага Украіну з Гданскам. Такі канал ішоўбы дарогай воднай Днепру, пачаўшы ад Кіева ў гару, Прыпяцьцю праз канал Агінскага да Віслы і Гданска.

Перагаворы гэты маюць вельмі вялікае значэньне для разьвіцьця гандлёвых адносін.

### Польска-савецкі гандаль.

У Варшаву прыехаў савецкі дзеяч гаспадарчы Чэрнов, які мае на мэце абзнаёміцца з гаспадарскімі справамі ў Польшчы ў сувязі з пачаўшымся гандлям між Польшчая і С. С. Р. Р.

### Курс даляра ў Варшаве.

10-га красавіка на Варшаўскай гелдзе плацілі за 1-га даляра ад 9 зл. 20 гр., да 9 зл. 22 гр.

# З Заграніцы.

### Мірныя перагаворы ў Марокко.

Сярод уступных варункаў мірных перагавораў, якія хутка маюць адбыцца, ёсьць такія пункты: спыненьне вайны, абмен палонных, нэўтралізацыя гранічнага шляху і выдаленьне верхаводаў паўстаньня. Далей у праграме перагавораў прадбачыцца аўтаномія рыфэнаў з утрыманьнем вярхоўнай улады султана і ваенны кантроль на землях рыфэнаў.

### Зьезд расейскіх эмігрантаў у Парыжы.

Расейскія эмігранты, якія паўцякалі ад бальшавікоў, зьехаліся нядаўна ў Парыжы дзеля арганізацыйных мэтаў. Было каля 500 дэлегатаў ад 26 гаспадарстваў. На гэтым зьездзе выясьнілася, што эмігранты дзеляцца на 7 палітычных партыяў, з якіх наймацнейшая па ліку дэлегатаў скрайная правіца.

### Крызыс парлямэнскай кааліцыйнай ўлады ў Чэхаславакіі.

Пасьля выбараў у восень прошлага году, крайнія партыі клерыкальная і камуністычная павялічыліся коштам нар. дэмакратычнай і сац.-дэм. Усётакі найбольшаю партыяй асталася аграрна-рэспубліканская, г. зн. сялянская, важаком якой ёсьць селянін Антось Швегла, і які аж да гэтага часу быў і міністрам-прэзыдэнтам. Ужо ад самых выбараў было відаць, што кабінэт ня будзе працаспасобны, бо міністрамі сталіся некатарыя толькі таму, што яны не апошнімі стаялі ў партыйных сьпісках. Дык ад самага пачатку ішла паміж імі барацьба, якая кончылася крызысам кабінэту. Прэзыдэнт прыняў адстаўку і назначыў кабінэт з чыноўнікаў-спэцыялістаў. З старых міністраў асталіся толькі два: Д-р Бэнэш — міністр заграніцных спраў і Д-р Энгліш — міністр фінансаў. На чале новага ўраду стаў практычны адміністратар - палітык і дэмакрат Ян Чэрны, які ўжо быў міністрам прэзыдэнтам чыноўніцкага кабінэту ў 1921 г. ў часе рабочага руху (рабочых у Чэхаславакіі 40 прац.), калі былі толькі дзьве работніцкія партыі: сац.-дэмакратаў і народных сацыялістаў (камуністы яшчэ аддзяляны ня былі), якія хацелі захапіць уладу ў свае рукі. Безпартыйныя чэскія газэты, як „Tribuna“ і інш. кажуць: „Мелі мы ўжо 7 улад, з якіх толькі адна была непарлямэнтарная, але за тое строга дэмакратычная. Калі паглядзім аб'ектыўна на тое, што зрабілі ўлады парлямэнтарныя і параўняем з работай за нядоўгі час улады непарлямэнтарнай, дык убачым, што для дэмакрацыі больш карысна практычная нядэмократыя, чым дэмакратычная тэорыя. Першая ўлада Чэрнага абараніла рэспубліку ад бальшавіцкага перавароту і крывавай клясовай дыктатуры, а другая ўлада абароніць ад дыктатуры партыяў“.

### Чаму Польшча ня мела спачуцьця ў Жэнэве?

У той час, як Лёндын з Парыжам абмысьлялі, як-бы лагадней абыйсьці балючыя мейсцы і падрыхтаваць згоду ў Лёкарне, Варшава з распасьцёртымі рукамі спатыкала Чычэрына, якога Эўропа ня лічыць мілоўнікам міру і які ехаў, каб пашкодзіць Лёкарну, каб згоды ня было. Эхо гукаў з Варшавы: „Niech żyją sowiety“, адгукнулася далёка. Не прайшоў так сама не заўважаным і флірт Варшавы з Масквой перад самым зьездам Лігі Народаў у Жэнэве, каб настрашыць Лігу. Апроч гэтага ўнутрэнае і вонкавае становішча Польшчы заграніцай больш вядома, чым у Варшаве. Дык калі польскія прадстаўнікі гаварылі „а гістарычным пасланьні Польшчы на Усходзе“ і што беларусам і ўкраінцам пад Польшчай добра жывецца, дык дыпляматы і карэспандэнты толькі усьміхаліся, бо ім гэта хвальба ўжо абрыдла. Яны ведаюць, што гэтыя словы далекі ад праўды.

### Чаму Бразылія не хацела адступіць ад свайго veto

Прычыну гэтага прыпісываюць Італіі. Пасьля зьезду міністраў Малой Антанты ў Тэмешвару д-р Бэнэш сказаў, што можа быць створана „Новае Лёкарно“. Зараз д-р Нінчыч паехаў у Рым, а з Рыму ў Парыж. Д-р Бэнэш паехаў у Вену, дзе быў спатканы прыхільна і падпісаў некатарыя ўмовы. Незадоўга з Белграду прышла вестка, што паездка Нінчыча кончылася шчасьліва, што быццам Югаславія, Італія, Францыя, Чэхаславакія, Румынія і Аўстрыя стварылі „Сярэдня-Эўрапэйскі гаранцыйны пакт“, да якога можа прыстаць і Нямеччына. Для Італіі важна, каб Аўстрыя не далучылася да Нямеччыны. Гэтыя весьці былі трошкі пасьля папраўлены, але не дэмэнтаваны. Дык калі прадстаўнік Італіі ў Жэнэве Сьцяёла, пасьля няяснай прамовы, саркастычна сказаў, што „пры галасаваньні ён будзе бараніць інтарэсы Італіі“, а не свае ўласные, пашоў слух, што за плячамі Бразыліі стаіць Італія, Літва і інш. нездаволеныя Нямеччынай і Польшчай.

### Ці будзе Нямеччына і Польшча прынята ў Лігу Народаў восеньню.

Пераглядываецца цяпер статут Лігі Народаў, які Нямеччыне не падабаўся і з за якога ў Лёкарно ішлі спрэчкі. Нямеччына апынілася цяпер у найвыгаднейшым становішчы. Яна мае ў руках ініцыятыву і будзе дыктаваць Радзе перастройку Лігі Народаў. Калі ей удасца правясьці сваю ідэю, дык разумеецца, што яна ахвотна ўступіць, калі не, дык з чэсьцю адыйдзе, бо, як заявіў Штрэзэман, Нямеччына тагды ня будзе лічыцца з Лёкарно і пакідае за сабою права свабоднага рашэньня. Адносна Польшчы, дык трэба мець на ўвазе, што ў восень так сама будуць кандыдаваць за Чэхаславакію—Югославія і за Швецыю—Данія ці Галяндыя. Калі статут ня будзе зьменен, дык Польшча будзе прымацца простаю большасьцю галасоў, а тут-то шансы не вялікі. У праціўным выпадку гаварыць цяпер прадчасна.

# ХРОНІКА.

— **Звальняньне рольных работнікаў.** Ад 1-га красавіка г. г. шмат абшарнікаў на дварох Віленшчыны звольніла частку сваіх рабочых сілаў. Прычыны: недахват грошаў па вядзеньне гаспадаркі і высокія падаткі. Найбольш звольнена работнікаў рольных у Ашмянскім, Сьвянцянскім і Віленска-Троцкім павеце.

— **Суд над камуністамі.** Акружны суд у Вільні прыступіў да разгляду справы **93 асоб** абвінавачаных у камунізьме. У вызначаным раней сроку справа гэта разглядалася пры дзьвярох зачыненых.

— **Эгзаміны на атэстат сьпеласьці ў беларускай, літоўскай і расейскай мове.** Па загаду Міністэрства Віленская Школьная Кураторыя правядзець гэтай вясной эгзамін сьпеласьці ў беларускай, літоўскай і расейскай мове. Апроч прадметаў прадугледжаных міністэрскай праграмай, будзе, такім

---

шуркі, дык можам ужо з гары амаль не цалком прадбачыць, што мог напісаць у ёй так слаўны ў Польшчы „здаровы хлопскі розум“ прадаўшага сялянскія інтарэсы эндэцкай „паньствовасьці“ дый пралезшага з „хлопаў“ у падпанкі—п. Вітаса...

Як і можна было прадбачыць, вітасава брашурка паўтарае шмат рэчаў, папросту наскубаных з эндэцкіх шпаргалак. Алё наагул гэта мудрасьць п. Вітаса, якой ледзь хапіла на 15 невялічкіх старонак брашуркі,— настолькі характэрна для сучаснай, забыўшай аб кормячым яе 20 мільённым сялянстве, панскай Польшчы, што варта ўважна праглядзець гэты твор, як дакумэнт маральнага і ідэйнага ўбожства — аднаго з тыповых правадыроў гэтай Польшчы...

Адзін з галоўных правадыроў „людовага руху ў дэмакратычнай Польшчы“, найбольш абураецца на Польскі Сойм, лічучы яго—першай прычынай усіх бедаў сучаснай Польшчы.

Галоўную віну сучаснага Сойму п. Вітас бачыць у тым, што ў ім—залішне многа сялян, дый прытым—такіх, якія маюць антыпаньствовую нагласьць—ставіць апор „волі соймавай большасьці“... Калі мы прыпомнім, што новазапанаваўшая ў Сойме „ўрадавая большасьць“ мае выдатна і рашуча процісялянскі характар, дык гэтае абурэньне „былога селяніна“ на апор сялянскай апазыцыі ў Сойме—„волі“ гэтай большасьці раскрыецца для нас у поўнай яго маральна-палітычным зьмесьце...

Усе гэтыя вызвалепцы, брыляўцы, сялянскія саюзы, камуністы дый наслядуючыя іх частка нацыянальных меншасьцяў, абураецца п. Вітас, гвалцяць волю большасьці, зрываюць паседжаньні Сойму... падкопываюць павагу гэтай найвышэйшай дзяржаўнай установы... раскладаюць палітычныя партыі... і г. д. і г. д.... (стар. 4).

Вось першае, што абурае п. Вітаса: у Сойме пачало ўсё галасьней і мацней адзывацца і ставіць апор аканчальнаму руйнаваньню сялянства—апазыцыя рожных больш-менш радыкальных сялянскіх групаў, якія не жадаюць таксама як пястоўцы прадаваць інтарэсы сялянства, разумеючы ўсё яго значэньне ў Польскай Дзяржаве...

V.

Былы польскі „хлоп“ абураецца далей на польскіх палітыкаў першых часоў паўстаўшай Польшчы — за тое, што тады „вольнасьцевыя лёзунгі“ былі выкарыстаны... на карысьць польскага люду (сялянства), але не на карысьць—Польскай Дзяржавы... Прасьцей кажучы, былы селянін Вітас страшэнна абураецца на залішне лібэральную Польскую Канстытуцыю ды выбарны закон, якія далі роўныя палітычныя правы ўсяму, нават няпольскаму сялянству ў Польшчы...

Ці ж ня крыўдна гэта для польскага „Паньства“, што нейкі там хлоп-паляшук, жывучы ў лясох ды шуварах... атрымаў роўныя палітычныя правы—дэцыдаваць аб сваім лёсе і аб лёсе і будучыне Польскай Дзяржавы, як і прафэсар унівэрсытэту... (Стар. 4).

„Правадыр людовага руху“ ў Польшчы паўтарае тут усё тое, што калісьці казалі проці агульнасьці і роўнасьці выбарнага права—галіцыйскія абшарнікі, проці якіх якраз тады бароўся, як шчыра сялянскі трыбун (абаронца)—той самы пас. Вітас у быўшым аўстрыяцкім парлямэнце дый у Галіцыйскім Сойме...

Былы войт верха-славіцкай гміны, сам, як сьцьвярджае „Роботнік“, ня скончыўшы нават сярэдняй школы, цяпер трэбуе, каб выбаршчыкамі ў Сойм маглі быць амаль не адны толькі „прафэсары“, а сяляне, а перадусім няпольскія сяляне („паляшукі“...), як ня маючыя „навуковых кваліфікацыяў“ былі пазбаўлены права голасу... Пазбаўлены, можа, не саўсім, але ў кожным разе — каб у прышлы Сойм найменш папала, а то і саўсім не папала прадстаўнікоў няпольскага сялянства ў Польшчы...

Гэткім чынам, былы селянін рашуча дамагаецца ад „улады ў Польшчы“ (ведама ж ад тэй самай урадавай коаліцыі, якая пануе цяпер...), каб яна зусім зачыніла дарогу сялянам беларускім, літоўскім і ўкраінскім да парлямэнту, пазбавіўшы іх права—„дэцыдаваць аб сваім лёсе“, нават—бараніцца ад тэй процісялянскай коаліцыі, якая ўжо дарэшты зруйнавала сялянскае жыцьцё ў Польшчы...—на 80% сялянскай...

VI.

З усяго, што сказана вышэй, ясна, што зусім не аб „лёсе Польскае Дзяржавы“ рупіцца п. Вітас—бо-ж лёсу яе абсалютна немагчыма аддзяліць ад лёсу яе сялянства, ашукванага і абдзіранага дагэтуль усімі ўрадамі і партыямі ў Польшчы... Найлепшым довадам гэтага зьяўляецца той т. зв. „хіена-пястоўскі“ ўрад, які „гаспадарыў“ у Польшчы ў 1924 годзе.

Як ведама, на чале гэтага ўраду стаяў якраз сам п. Вітас. І вось тады ўрад гэты ў працягу 7 месяцаў літаральна, як сьцьверджана цяпер усімі, абрабаваў якраз тую самую „Польскую Дзяржаву“, якой „лёс“ інтарэсы бароніць цяпер ад сялянства той жа п. Вітас... Гэты ўрад распусьціў усе запасы, усе багацьці польскага дзяржаўнага скарбу, зруйнаваў дарэшты польскую валюту (марку).

Хто-ж тады скарыстаў на руіне працоўных масаў краю, галеўшых адначасна са спадкам польскай маркі?... Вось на гэтае найбольш цікавае пытаньне дае добры адказ толькі-што пачаўшыся працэс п. Ліндэ... Гэты быў якраз міністрам фінансаў у габінэце п. Вітаса, а пасьля — прэзэсам Дзяржаўнай Касы Ашчаднасьці. А судзіцца ён за тое, што з гэтай Дзяржаўнай Касы, хапаў, як са сваей уласнай, сколькі-толькі хацеў!—і ён сам, і яго сваякі, дый прыяцелі!... І вось тады пан Вітас—са свайго найвышэйшага становішча —пэўна-ж найляпей бачыў усё гэта, дый маўчаў...

Дык цяпер ужо — ня пану Вітасу вучыць усіх у Польшчы дзяржаўнага розуму дый грамадзянскага сумленьня!

(Далей будзе).

